

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 48 (1251) 2 СНЕЖНЯ 2015 г.**


# 95-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну

28 лістапада ў Слуцку адзначылі 95-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну. Слуцкі райвыканкам дазволіў правесці ў Слуцку ўрачыстую дэманстрацыю і мітынг з нагоды 95-й гадавіны Слуцкага збройнага чыну.

У суботу раніцай з Менска ў Слуцк выправіліся каля 60 актывістаў партыі Беларускага народнага фронту "Адраджэньне", "Маладога





Фронту", руху "За Свабоду", "Разам". У акцыі бралі ўдзел старшыня партыі БНФ Аляксей Янукевіч, намеснік старшыні Рыгор Кастусёў, маладафронтаўцы Зміцер Дашкевіч, Мікола Дземідзенка ды іншыя.

Першым прыпынкам стала вёска Грозава, дзе фармаваўся Грозаўскі полк паўстанцаў. Актывісты праспявалі "Магутны Божа" і выправіліся далей. Наступнымі пунктамі прыпынку сталі вёскі Семежава і Чырвоная Слабада.

У мястэчку Семежава, дзе ў цэнтры стаіць крыж ў гонар паўстанцаў, актывіст Зміцер Каспяровіч распавёў удзельнікам вандроўкі пра асаблівасці баёў у тых мясцінах. "Мястэчка 4 разы пераходзіла з рук ў рукі падчас баёў случчакоў з чырвонаармейцамі. Шмат хто з чырвонаармейцаў, якія таксама ў асноўным былі сялянамі, пераходзілі на бок паўстанцаў. І таму камандаванне Чырвонай арміі выкарыстала часткі, укамплектаваныя добраахвотнікамі-кітайцамі, і толькі тады паўстанцам давялося адступіць", - распавёў Каспяровіч.



Галоўная імпрэза прайшла ў Слуцку, дзе да мінчукоў далучыліся мясцовыя актывісты. Перад шэсцем на пляцоўцы каля былога дома Эдварда Вайніловіча, дзе цяпер месціцца музей, прайшла прысяга "маладафронтаўцаў". Гэта традыцыйная цырымонія. Сёлета прысягу на вернасць Радзіме і бел-чырвона-беламу сцягу прынялі 14 чалавек - больш, чым у папярэднія два гады.

Калона прайшла да Слуцкага краязнаўчага музея да гарадскога парку культуры і адпачынку на вуліцы Віленскай, дзе прайшоў урачысты мітынг. Лідэр партыі БНФ Аляксей Янукевіч свой выступ на мітынгу прысвяціў тэме змагання з расейскай экспансіяй, у чым, паводле яго, далі прыклад героі паўстання 1920 году на Случчыне. "Яны ведалі, што такое жахі грамадзянскай вайны, але яшчэ больш жахлівым ім падавалася жыцьё ў няволі", - сказаў пра вычын случчакоў Аляксей Янукевіч і асудзіў экспансію Расеі, якая "плануе размясціць на Беларусі свае вайсковыя базы і зрабіць з нашай краіны вайсковы плацдарм".

***Паводле СМІ.***


ISSN 2073-7033




# Рэспубліканская Рада ТБМ



29 лістапада ў сядзібе ТБМ прайшло чарговае паседжанне рэспубліканскай Рады ТБМ. На парадак дня былі вынесены наступныя пытанні:

1. Абмеркаванне плана працы ТБМ на 2016 год.
2. Аб даце чарговай Рады ТБМ.
3. Пастанова аб памеры складак на 2016 год.
4. Падвядзенне вынікаў выбарчай прэзідэнцкай кампаніі 2015 г.
5. Аб удзеле сяброў ТБМ у будучых парламенцкіх выбарах.
6. Аб памятным знаку ў гонар беларускай мовы.
7. Аб падпісцы на "Наша слова".
8. Рознае.



Сябры Рады ўнеслі шэраг дапаўненняў у праект плану, надрукаваны ў папярэднім нумары "Нашага слова". У прыватнасці былі ўнесены прапановы па правядзенні круглых сталоў (канферэнцый) па пытанні беларускай, у тым ліку рэлігійнай, тэрміналогіі, а таксама на папярэднюю тэму: "Адзіная дзяржаўная беларуская мова і бяспека краіны". Канчаткова план працы ТБМ на 2016 год будзе зацверджаны на чарговым паседжанні Рады, якое пастанавілі правесці **24 студзеня 2016 года**.

Рада прыняла пастанову аб памеры складак на 2016 год.

Шырокая дыскусія разгарнулася па пытаннях падвядзення вынікаў выбарчай прэзідэнцкай кампаніі 2015 года і аб удзеле сяброў ТБМ у будучых парламенцкіх выбарах. Было адзначана, што сітуацыя на палітычным полі Беларусі нечым нагадвае сітуацыю 1989-90 гадоў, і ТБМ у 2016 годзе можа сказаць не менш важкае слова, чым сказала тады. Сябрам Рады прапанавана да наступнага паседжання прадумаць усе аспекты гэтага пытання.

Не было дасягнута адзінства ў пытанні аб памятным знаку ў гонар беларускай мовы. Большасць схілілася да таго, што спачатку трэба вырашыць пытанне пра рамонт помніка беларускай літары"У нескладовае" ў Полацку. На наступнай Радзе, магчыма, ужо будзе пачаты збор сродкаў на гэты рамонт.

По пытанні падпіскі на "Наша слова" заслухалі паведамленне рэдактара Станіслава Судніка. Рада даручыла Анатолю Вярцінскаму, Аляксандру Давідовічу і Станіславу Судніку прапрацаваць прапановы да наступнага паседжання.



Сябры Рады атрымалі па два тамы матэрыялаў міжнароднай канферэнцыі, праведзенай ТБМ вясной 2015 года.

***Наш кар.***

**Пастанова Рады ТБМ імя Ф. Скарыны**
**"Аб уплаце сяброўскіх складак (узносаў) на 2016 год"**

Менск 29 лістапада 2015 г.

Рада ТБМ пастанаўляе вызначыць наступныя памеры сяброўскіх складак з 1 студзеня 2016 года:

1. Для тых, хто працуе - 100 тыс. руб.
2. Для беспрацоўных - 50 тыс. руб
3. Для студэнтаў - 20 тыс. руб.
4. Для пенсіянераў - 50 тыс. руб.
5. Для вучняў школ, ліцэяў і гімназій - 10 тыс. руб.
6. Для грамадзян Расіі - 500 расійскіх рублёў.
7. Для грамадзян іншых краін - 10 $ альбо 10 еўра.

# Паседжанне аргкамітэта па стварэнні Нацыянальнага ўніверсітэта з беларускай мовай навучання

23 лістапада адбылося паседжанне аргкамітэта па стварэнні Нацыянальнага ўніверсітэта з беларускай мовай навучання. У ім бралі ўдзел: А. Мілінкевіч, А. Трусаў, У. Колас - сустаршыні, М. Пастухоў, П. Церашковіч, І. Дубянецкая, В. Рымашэўскі, Л. Баршчэўскі, А. Сядзяка, А. Жылко, У. Мацкевіч, А. Анісім.

Падчас паседжання былі абмеркаваны канцэптуальныя падыходы, а таксама механізмы і варыянты стварэння ўніверсітэта ў сённяшняй сітуацыі. Большасць сяброў аргкамітэта выказалася за тое, што названая ўстанова мусіць быць зарэгістраваная ў Беларусі, хоць некаторыя перакананы ў тым, што гэта немагчыма і высілкі, прыкладзеныя ў гэтым кірунку, будуць патрачаныя марна і толькі адбяруць час.

Усе прысутныя фактычна пагадзіліся на тым, што ўніверсітэт - гэта найперш супольнасць, якую аб'ядноўваюць такія рэчы, як свабода думкі, імкненне да набыцця ведаў.

У выніку зацікаўленага абмеркавання, зважаючы ў тым ліку і на скептычныя заўвагі, сябры аргкамітэта вырашылі:

1. Стварыць канцэпцыю будучага ўніверсітэта, зыходзячы з некалькіх магчымых варыянтаў яго функцыянавання.

2. Сабраць пакет дакументаў, неабходных паводле заканадаўства Рэспублікі Беларусь для рэгістрацыі ўніверсітэта.

3. Наступнае паседжанне склікаць праз тыдзень і абмеркаваць прапановы і заўвагі да канцэпцыі.

*Наш кар.*

# На *"У нескладовае"* няма грошай

МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
Праспект Пераможцаў, 11, 220004, г. Мінск
Тэлефон (017) 203 75 74
Факс (017) 203 90 45
e-mail: ministerstvo@kultura.by

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
Проспект Победителей, 11, 220004, г. Минск
Телефон (017) 203 75 74
Факс (017) 203 90 45
e-mail: ministerstvo@kultura.by

17.11.2015 № 01-20/70/401
На № 179 ад 23.10.2015

Старшыні грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
Трусаву А.А.

Аб ушанаванні памяці

Паважаны Алег Анатольевіч!

Разгледзеўшы ў межах сваёй кампетэнцыі пісьмо грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" ад 23 кастрычніка 2015 г. № 179, паведамляем наступнае.

Згодна з пастановай Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь ад 21 снежня 2008 г. № 208 "О бюджетной классификации Республики Беларусь" за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту ажыццяўляецца фінансаванне толькі стварэння твораў манументальнага мастацтва.

Такім чынам, згодна з заканадаўствам выдзяленне сродкаў на рэстаўрацыю помніка літары "Ў" у г. Полацку з рэспубліканскага бюджэту не ўяўляецца магчымым.

Улічваючы, што помнік літары "Ў" знаходзіцца на балансе КУП "ЖКГ г. Полацка", згодна з артыкуламі 44 - 46 Бюджэтнага кодэкса Рэспублікі Беларусь рэстаўрацыя названага помніка можа быць праведзена за кошт сродкаў мясцовага бюджэту ці за кошт бязвыплатнай (спонсарскай) дапамогі, іншых крыніц, не забароненых заканадаўствам.

З павагай,
Першы намеснік Міністра І.У. Дрыга.

# У першакласніка ў Літве 7 урокаў беларускай мовы на тыдзень, у Беларусі -1

*"У звычайнай беларускай школе першакласнікі вывучаюць беларускую мову толькі адзін раз на тыдзень"*, - здзіўляюцца бацькі. Пры гэтым рускую мову вучаць утрая больш. *"Дзецям цяжка засвойваць дзве мовы адразу"*,- такі адказ чыноўнікаў.

Ужо ў другім класе беларускай больш: два разы на тыдзень. Пяцікласнікі маюць па тры ўрокі і рускай, і беларускай. У дзясятым класе родная мова - адзін раз на тыдзень, руская - тры, як у першакласнікаў. У адзінаццатым па два ўрокі абедзвюх моў на тыдзень.

***А як жа вучаць беларусаў у беларускіх школах за мяжой?***

У суседняй Вільні, у гімназіі імя Францішка Скарыны першакласнікі маюць сем урокаў беларускай мовы на тыдзень.

Літоўскую першакласнікі таксама вучаць, але толькі тройчы на тыдзень. У сярэдняй школе і літоўскай, і беларускай пяць гадзін на тыдзень. У старшакласнікаў на носе экзамен, таму літоўская становіцца больш.

У адзінай беларускай школе Рыгі беларуская мова ў першакласнікаў - тры разы на тыдзень. Такі расклад да чацвёртага класа, а пасля і да канца школы - па два ўрокі. Рускую мову тут таксама вывучаюць, але родная лічыцца беларуская.

Абавязковая для вывучэння беларуская мова ў польскім Гайнаўскім комплексе з ліцэя і гімназіі. У гімназіі вучні навучаюцца тры гады і столькі ж у ліцэі.

З наступнага года беларускай мовы ў школах стане больш. Гэта вынікае з адказу Міністэрства адукацыі на зварот Еўрарадыё: *"Пачынаючы з другога класа незалежна ад мовы навучання на вывучэнне беларускай і рускай моў, беларускага і рускага літаратурнага чытання ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі адводзіцца аднолькавая колькасць гадзін (на вывучэнне беларускай і рускай моў - тры гадзіны на тыдзень, беларускага і рускага літаратурнага чытання - дзве гадзіны на тыдзень). Адпаведна, для трэцяга класа пераход на новы тыпавы вучэбны план абдудзецца з 2017/2018 навучальнага года, для чацвёртага класа - з 2018/2019 навучальнага года".*

Па тры гадзіны на тыдзень беларускую і рускую мовы будуць вывучаць да дзявятага класа. У дзясятым і адзінаццатым увядуць базавы і павышаны ўзровень. На базавым беларускую мову будуць вучыць адну гадзіну на тыдзень, на павышаным - тры гадзіны.

*euroradio.fm.*






# Ён верыў у свой народ

*85-тыя ўгодкі з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча, аднаго з самых любімых і чытаных пісьменнікаў, адзначылі вечарынамі, літаратурнымі сустрэчамі і канцэртамі ў Менску, Оршы, Гомелі, Гародні.*

26 лістапада, у дзень, калі Уладзіміру Сямёнавічу споўнілася б 85, у менскай галерэі сучаснага мастацтва "Ў" сабраліся яго сваякі і сябры, калегі і знаёмыя, чытачы і прыхільнікі творчасці. Арганізавалі вечарыну ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" і кампанія "Будзьма беларусамі!".

- З твораў Караткевіча паўстае мужная і гераічная Беларусь, якой мы ганарымся, - адзначыў старшыня ГА "СБП", Барыс Пятровіч. - Мы ведаем Караткевіча як празаіка, як выбітнага паэта, але зусім мала ведаем яго як чалавека. Ён амаль не пісаў дзённікаў.

На сустрэчы выступілі з успамінамі пра старэйшага калегу і сябра Сяргей Законнікаў, Леанід Драньо-Майсюк Уладзімір Някляеў, Уладзімір Арлоў. Многім з літаратараў і прадстаўнікоў інтэлігенцыі Уладзімір Сямёнавіч паспрыяў сваім чалавечым стаўленнем і паўздзельнічаў на лёс.

На вечарыне, якую вёў празаік, галоўны рэдактар часопіса "Дзеяслоў" Барыс Пятровіч, быў прэзентаваны новы, 78-ы нумар часопіса з унікальнай публікацыяй дзённіка ( 1965-66 гадоў) Уладзіміра Караткевіча, выдадзенага дзякуючы пляменніцы класіка - Алене Іванаўне Сінькевіч. У дзённіку апавядаецца пра тыя часы, калі Уладзімір Караткевіч працаваў над раманам "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" і над сцэнарам фільма па ім. У 1965 годзе ён быў мабілізаваны ў войска і служыў на Далёкім Усходзе з Рыгорам Барадуліным. Некаторыя моманты назіранняў ляглі ў аснову яго аповесці "Чазенія". Караткевіч піша ў дзённіку пра сваіх сяброў, сучаснікаў, пра родную Рагачоўшчыну.



Сяргей Законнікаў пазнаёміўся з У. Караткевічам на першым курсе ўніверсітэта ў састарым Доме пісьменнікаў на вул. Энгельса, і яны сябравалі 20 гадоў. Сяргей Іванавіч узгадаў, як Уладзімір Караткевіч прыязджаў на Вушаччыну, аглядаў старажытныя помнікі, хадзіў на азёры. Ён прыйшоў да яго дадому, пасябраваў з яго бацькам і хутка знайшоў падыход да 7-месячнай дачкі Сяргея Іванавіча - зайграў на шчоках, як на гавайскай гітары. З той пары яна яго вельмі палюбіла як чалавека. Калі дачка вырасла, то стала адным з лепшым чытачоў Караткевіча і намеснікам рэктара Беларускай акадэміі мастацтваў. Узаемаадносіны пісьменніка з людзьмі паказваюць яго ва ўсіх іпастасях, вызначаюць рухавік, які кіруе пісьменнікам.

- Не гледзячы на цяжкія ўзаемаадносіны з цэнзурай, былі людзі, якія дапамагалі Караткевічу, - узгадаў Леанід Драньо-Майсюк. - У Менску гэта быў Міхаіл Фёдаравіч Дубянецкі, дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура", кіраўнік выдавецкай структуры незвычайнай мужнасці. Ён выдаў забаронены раман Караткевіча "Нельга забыць". Не гледзячы на выдавецкія планы, якія былі пад кантролем, Міхаілу Фёдаравічу ўдалося ажыццявіць задуманае ў 1983 годзе. Кнігу выдалі накладам 60 000 асобнікаў.







- Да юбілею Караткевіча ў музеі ў Воршы была адкрыта выстава рукапісаў пісьменніка, там былі сотні старонак "Каласоў пад сярпом тваім", гэта быў машынапіс аўтара, праўка рэдактара і іх палеміка, машынапіс "Ладдзі роспачы", - распавёў Уладзімір Арлоў. - На круглым стале прагучала ідэя, што ў Воршы павінен быць бульвар Караткевіча, і на гэтым бульвары павінен стаяць помнік. Недалёка ад помніка пісьменніку павінна быць скульптурная група, прысвечаная яго героям. Ад Саюза беларускіх пісьменнікаў я прывёз музею Караткевіча падарунак - тэлефон-факс, каб яны маглі звязвацца з даследчыкамі яго творчасці ва ўсім свеце. - Караткевіч - такі творца, веліч, талент, святло якога з гадамі толькі пачынаюць ззяць яшчэ ярчэй. Пра гэта сведчыць поспех дзённіка Караткевіча. Кніга "Дзікае паляванне караля Стаха" нядаўна выйшла вялікім накладам ў серыі "Мая беларуская кніга", у бліжэйшы час з'явяцца "Чазенія" і зборнік апавяданняў.

Уладзімір Сямёнавіч быў чалавекам Адраджэння. Чалавечае, гуманістычнае слова Караткевіча рабіла дзівосы з лёсамі асобных таленавітых людзей. Усе бывалі ў Полацку, Гародні, у сядзібе Францішка Бугушэвіча ў Кушлянах, у кармеліцкім касцёле ў Мсціславе. Аўтарам праектаў рэстаўрацыі цэлага тузіна помнікаў гісторыі з'яўляецца Валеры Слюнчанка, адзін з першых архітэктараў-рэстаўратараў Заходняй Беларусі. У задушлівай атмасферы 1960-тых гадоў Валеры, будучы яшчэ студэнтам, хацеў кінуць навучанне. Ягоныя ідэі былі выстаўлены на выставе праектаў на возеры Свіцязь. Праекты ўбачыў Уладзімір Караткевіч. Ён быў так уражаны, што напісаў студэнту ліст: "Мне робіцца радасней жыць!",- напісаў Караткевіч. І гэты ліст паўплываў на тое, што Валеры вярнуўся вучыцца і стаў аўтарам рэстаўрацыі ўсіх помнікаў.

Гід Уладзіміра Сямёнавіча па Пінску, які паказваў яму старажытнасці, і чыё імя не дала назваць цэнзура, быў малады Казімір Свёнтак.

Уладзімір Някляеў узгадаў, як сабраліся тры сябры: Рыгор Барадулін, Адам Мальдзіс і Уладзімір Караткевіч.

- Ён пачаў расказваць пра Беларусь як казку: такая была краіна шляхетная, такія ў ёй былі паненкі цудоўныя,такія былі спадары беларусы-рыцары моцныя, што ў іх аж валасы на галаве пахруствалі. “А адкуль ты ведаеш? - Я веру!”.

Аднойчы мы паехалі на Палессе, і зламалася машына ноччу каля вёскі. Караткевіч кажа: "Гэта ж беларуская вёска. Кожны беларус пусціць у хату!" Мы засумняваліся, але з першых дзвярэй, у якія мы пагрукаліся, выйшлі гаспадары, накрылі стол, паклалі нас на палаці. Трэба было бачыць, як Караткевіч пераможна глядзеў: "Вось што такое Беларусь, што такое нашы людзі!"

Сёння, у дзень нараджэння Караткевіча, мы маем вялікае нацыянальнае свята, таму што сама ідэя аб незалежнасці краіны была народжана літаратарамі. У тым, што мы маем, вялікая роля Караткевіча

Алена Іванаўна Сінькевіч выступіла з расповедам пра Уладзіміра Сямёнавіча, пра працэс падрыхтоўкі рукапісу да друку, пра ўражанні ад яго прачытання.

Асобна было адзначана пра выданне поўнага збору твораў Уладзіміра Караткевіча. Як распавёў даследчык, кіраўнік гэтага праекту Анатоль Верабей, на дадзены момант выйшлі ўжо 10 тамоў з меркаваных 25-ці .

На вечарыне прагучалі вершы з кнігі "Быў. Ёсць. Буду". Песні на словы Уладзіміра Караткевіча выканалі Анатоль Івашчанка і Алесь Камоцкі.

***Э. Дзвінская.***

*Фота Вікі Трэнас.*

# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў снежні

Абдулаева Святлана Іосіфаўна
Агуновіч Эдуард
Адамоніс Валянцін Канстанцін.
Аксючыц Галіна Уладзімір.
Аксючыц Ганна Аляксандр.
Алейнік Віталь
Андрасовіч Тацццяна Валянцін.
Андрэенка Яўген Барысавіч
Аношка Любоў Іосіфаўна
Антаноўская Людміла
Анцыповіч Мікалай
Арцюшэнка Вікторыя Уладз.
Асадчая Алена Вадзімаўна
Асіповіч Ананій Канстанц.
Атрахімовіч Вячаслаў
Аўласка Ала
Афанасенка Кацярына Уладз.
Багінская Аўгіння Ніна Рыгор.
Багнюк Любоў
Баеў Канстанцін Генадзевіч
Бандарчык Вікторыя Ігараўна
Бараноўскі Аляксандр Уладз.
Бартошык Наталля Пятроўна
Батура Міхаіл Пятровіч
Бацян Валянціна
Бацяноўскі Аляксандр Рыгор.
Башкоў Аляксандр Аляксанд.
Баярчук Алена
Бедка Іван
Белка Сяргей Мікалаевіч
Берняковіч Іна
Бойка Валянцін Юр'евіч
Борбат Тацццяна
Буданаў Зміцер Львовіч
Букачова Алена Уладзіміраўна
Бурак Жанна Генадзеўна
Бурносаў Раман Генадзевіч
Бусловіч Святлана Анатол.
Вабішэвіч Аляксандр Мік.
Вайдашэвіч Жанна Пятроўна
Верабей Янка Міхайлавіч
Весялевіч Ірына Міхайлаўна
Водзіч Наталля
Волкава Ала
Гагуліна Юлія Аляксандраўна
Гайдаровіч Анжэліка
Галіноўская Ніна Васільеўна
Галкоўскі Аляксандр Алякс.
Гарох Мікалай Андрэевіч
Гарэцкі Радзім Гаўрылавіч
Гацкі Уладзімір Венядзімавіч
Герэра Менгана Ідаэль Ідаэл.
Гінько Марыя Уладзіміраўна
Гнятуля Алег Аляксандравіч
Гракун Валянціна Іосіфаўна
Грамыка Алена Віктараўна
Гром Ігар Віктаравіч
Груздзеў Аляксандр Ігаравіч
Грыгаровіч Вітаўт Іванавіч
Грыневіч Ганна Васільеўна
Грыцаў Тарас
Грэйт Тацццяна Міхайлаўна
Грэская Браніслава
Гук Уладзімір Пятровіч
Гурыновіч Генадзь Аркадзев.
Дабрынец Аляксей Васільевіч
Давідовіч Дзмітры
Даманава Лідзія Дзмітрыеўна
Дамарацкі Аляксандр Уладзім.
Дарафей Іна Сцяпанаўна
Дашкевіч Вікторыя Віктараўна
Дашкевіч Галіна С.
Двілянская Бэла
Дземідовіч Ігар Славаміравіч
Дзем'яновіч Тацццяна А.
Дзяменцева Ірына
Дзянісаў Уладзімір
Донаў Павел Пятровіч
Доўжык Андрэй Ігаравіч
Дрозд Юля
Дунецкі Тадэвуш Віктаравіч
Дучыц Людміла Уладзіміраўна
Егіпцава Тацццяна Уладзімір.
Ермалёнак Марыя Георгіеўна
Еўдакіменка Святлана
Жаўнярчук Ларыса Васіл.
Жучкова Наталля Яўгенаўна
Жыткавец Кацярына
Захарэвіч Андрэй Леанідавіч
Зелянко Вольга Уладзіміраўна
Зімніцкая Ірына
Змушка Валерыя Аляксандр.
Зусько Сяргей
Ільініч Дар'я Сяргееўна
Каваленка Святлана Пятроўна
Кавалеўскі Сяргей Мікалаевіч
Кажан Анатоль Лазаравіч
Казачок Ларыса
Каласоўскі Юрась Уладзімір.
Калбанёў Віталь Васільевіч
Калыска Ірына
Каляда Ірына
Камароўская Зінаіда Іванаўна
Камароўскі Андрэй Уладзімір.
Кардаш Глеб
Каржэўскі Віктар Мікалаевіч
Каркота Анэліка
Карпенка Аляксей Аляксеевіч
Касатая Тацццяна Уладзімір.
Каспяровіч Паліна Уладзімір.
Кастанаў Аляксандр
Кашчэеў Аляксандр
Кім Тацццяна Андрэеўна
Клімковіч Ірына Яўгенаўна
Клок Валянціна
Клютчэня Андрэй
Колабава Ірына Навумаўна
Конан Генадзь
Краўчук Сяргей
Ксянзова Святлана Пятроўна
Курневіч Лізавета Васільеўна
Курчынскі Браніслаў Браніслт.
Курылычык Мікалай Пятровіч
Кутасаў Аляксандр Аляксанд.
Кутырло Віталь Эдуардавіч
Кухарчык Вольга Сяргееўна
Лабковіч Мікалай Мікалаевіч
Лапцэвіч Зміцер
Лашук Міхаіл
Лемцюгова Валянціна Пятр.
Літвінаў Мікалай Сяргеевіч
Логвінава Вольга Іванаўна
Лозка Алесь Юр'евіч
Лукашэвіч Алена
Лук'янцаў Алег
Лявіцкі Ягор Вацлававіч
Ляшковіч Дзмітры Іосіфавіч
Макарэвіч Нікадзім Аляксан.
Малахаў Зміцер
Мамай Чеслава Чаславаўна
Мамчыц Раман Эдуардавіч
Марговіч Людміла Васільеўна
Мароз Аляксей Уладзіміравіч
Матчэня Алег
Мацко Сяргей Віктаравіч
Мікалаеў Андрусь Васільевіч
Мілаш Валеры Уладзіслававіч
Міткавец Аляксандр
Мішкевіч Інэса Вітольдаўна
Мядзведзева Валянціна
Мядзюта Аляксандр
Нікіціна Зінаіда
Новік Мікалай Аляксандравіч
Новік Тацццяна
Ожык Галіна
Падгол Уладзімір
Паляшчук Наталля
Пантус Сяргей Іванавіч
Панцялей Аляксандр Уладзім.
Папека Мікалай
Пархімовіч Сяргей Аляксанд.
Патоцкі Генадзь Мікалаевіч
Паўлавіцкі Станіслаў
Пахлопка Ніна Аляксееўна
Пахолак Раман Аляксандравіч
Пека Зоя Пятроўна
Півавар Мікалай Васільевіч
Піменава Алена Анатольеўна
Пішчулёнак Марына
Плакса Ўладзімір
Поцька Віталь Станіслававіч
Пракаповіч Ігар Міхайлавіч
Пракопчык Ірына Міхайлаўна
Прыбыльская Наталля
Пудаў Дзмітры Леанідавіч
Пятроўская Алена Аляксанд.
Рагацэвіч Вольга Анатольеўна
Раеўскі Аляксандр Аляксан.
Рамашкевіч Алег Аляксандр.
Русецкая Ала
Рыбачкін Віктар Барысавіч
Рыжая Аляксандра Васільеўна
Рыжыкава Людміла
Савіцкая Тэрэза Міраславаўна
Сагідуліна Лідзія Дзмітрыеўна
Садовіч Юры Аляксандравіч
Сакалоў Багдан Анатольевіч
Салаш Вольга
Свідуновіч Галіна
Севярынец Павел Канстанц.
Семяненка Тацццяна Леанід.
Сенькавец Еўдакія Маісееўна
Серадзюк Дзіяна Эдуардаўна
Сівы Сяргей
Скуратовіч Аляксей Анатол.
Слінько Аляксандр Віктаравіч
Сныткіна Вольга Анатольеўна
Станішэўскі Віталь Валянц.
Станкевіч Наталля Аляксанд.
Стралю Валер Васільевіч
Стральцоў Аляксандр Віктар.
Сугака Лявон
Супаненка Павел Ігаравіч
Сыраід Яна
Тарашкевіч Марына Мікал.
Трафімчык Тацццяна Уладзім.
Трацццяк Ганна
Трушко Уладзімір
Туліжанава Марыся Аляксан.
Урублеўская Лізавета Мікал.
Федаровіч Святлана Іванаўна
Фунт Аляксандра Сяргееўна
Халезіна Дзіяна
Хальпукова Вольга
Харак Анастасія Уладзімір.
Хітрыкава Галіна Уладзімір.
Хлус Алена
Храмцоў Васіль
Худанёнак Ірына
Цівончык Мікалай Канстанц.
Ціханчук Алена Ігараўна
Цыва Андрэй Вітальевіч
Цыганкова Таіса Мікалаеўна
Цыцыліна Тацццяна Міхайл.
Чуйко Аляўціна Аляксееўна
Шалахоўскі Аляксей Леанід.
Шалкоўская Людміла Віктар.
Шаравар Мікалай Лазаравіч
Шаршун Алена Сяргееўна
Швед Аляксандр Аляксандр.
Шушкевіч Станіслаў Станісл.
Шчарбакова Марта Алякс.
Шчарбіцкі Андрэй Віктаравіч
Шчэрбік Зміцер Васільевіч
Шыловіч Дзмітры Мікал.
Шыманец Віржыня
Шымук Марыя Дзмітраўна
Шынкевіч Сяргей Іванавіч
Шыцёнак Наталля
Шышко Вальдэмара Альберт.
Шышко Іван Валянцінавіч
Шэпетаў Мікалай Васільевіч
Юданаў Віктар Канстанцінавіч
Юшкевіч Міхаіл Валянцінавіч
Яголда Марына Уладзіслав.
Янкін Ігар Андрэевіч
Ярошкіна Ірына Фёдараўна
Яўменаў Альберт Піліпавіч

# СУСТРЭЧЫ Ў АЗЁРНЫМ КРАІ

Сябры Пастаўскай раённай арганізацыі ТБМ праводзяць актыўную работу па папулярызацыі роднай мовы і культуры, кніг і матэрыялаў пра родны край. Адбываецца гэта ў розных формах, найчасцей - падчас сустрэч у навучальных установах, бібліятэках, дамах культуры.

11 лістапада была здзейснена паездка ва ўсходнюю частку Мядзельскага раёна з выступленнямі ў Слабадской, Старагабскай і Сваткаўскай школах. Мэта сустрэч - акцэнтаваць увагу вучняў і настаўнікаў на неабходнасць ашчаднага стаўлення да роднай мовы, важнасці яе вывучэння і карыстання ёй у паўсядзённым жыцці, а таксама каштоўнасці збору, упарадкавання і выдання краязнаўчых матэрыялаў, асабліва пра знікаючыя і ўжо зніклыя населеныя пункты і іх жыхароў.








Перад школьнікамі з мультымедыйнымі прэзентацыямі выступіў член Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Пастаўскай раённай арганізацыі ТБМ, настаўнік геаграфіі Пастаўскай гімназіі Ігар Пракаповіч. Ён падзяліўся досведам збору краязнаўчых матэрыялаў, расказаў пра сваю літаратурную і педагагічную дзейнасць, паказаў выдадзеныя кнігі, прачытаў некаторыя творы. Асаблівая ўвага ў выступленнях была звернута на важнасць сумеснай працы вучняў і настаўнікаў у справе вывучэння родных мясцін, стварэнні іх летапісаў.

Для таго, каб зацікавіць школьнікаў вывучэннем роднага краю, у прэзентацыю былі ўключаны фотаздымкі мясцовых адметных аб'ектаў і творчых асоб, зробленыя сябрамі ТБМ падчас летніх краязнаўчых вандровак па Мядзельшчыне. Вучні і настаўнікі, якія маглі пазнаць помнікі і расказаць пра іх, атрымлівалі салодкі пачастунак - цукеркі.

Усе сустрэчы прайшлі цікава і, думаецца, карысна для ўсіх іх удзельнікаў, за што трэба выказаць словы ўдзячнасці дырэктарам і педагагічным калектывам Слабадской імя А. Гурыновіча, Сваткаўскай імя М. Танка і Старагабскай школ. Хочацца пажадаць ім выдатных дасягненняў у вучобе і добрага плёну ў дзейнасці на карысць нашай Бацькаўшчыны.

***Юлія Пракаповіч.***

***Наздымках:*** 1, 2. Сустрэча ў Слабадской школе; 3. Сустрэча ў Старагабскай школе.

## Гісторыя ў падзеях і малюнках

**8 снежня** (аўторак) на сядзібе ТБМ адбудуцца чарговыя заняткі ў гістарычнай школе "Гісторыя ў падзеях і малюнках" з **Алегам Трусавым.**

Пачатак 18.00. Уваход вольны.

# Настаўнік з Даніі напісаў казку пра ВКЛ

## На заробленыя грошы створыць прытулак для беларускіх мастакоў

*"Княства пад бел-чырвона-белым сцягам" - так называецца казка, якую выдаў Мікаэль Нільсэн, 37-гадовы настаўнік з Даніі. Натхнёны беларускай рэчаіснасцю, ён напісаў казку пра краіну, якая вельмі нагадвае Беларусь. Як Нільсэн стаў персонай нонграта ў Беларусі і навошта яму ўкладаць грошы ў стварэнне прытулку для беларускіх мастакоў у Даніі, ён распавёў Свабодзе.*



Нільсэн нарадзіўся ў 1978 годзе ў Капенгагене. Скончыў універсітэт у горадзе Роскіле і настаўніцкі каледж. З сярэдзіны 1990-х быў актыўным сябрам Сацыял-дэмакратычнай партыі Даніі і нават узначальваў гарадскую арганізацыю Капенгагена.

У 2005 годзе Нільсэн трапіў у Вільню, дзе праходзіў лагер для актывістаў беларускіх НДА. Ад іх ён даведаўся пра цяжкія ўмовы, у якіх вымушаныя працаваць недзяржаўныя грамадскія арганізацыі.

- Гісторыі актывістаў, якіх збівалі за іхнюю дзейнасць, выганялі з універсітэтаў, зрабілі вялікае ўражанне на мяне, - сказаў Нільсэн Свабодзе. - Як сацыял-дэмакрат я хацеў быць салідарным з людзьмі, якія змагаюцца за сваю свабоду і дэмакратыю.

Уражаны Нільсэн вырашыў адысці ад мясцовых спраў і заняцца працай з беларускімі НДА.

- З маім досведам працы ў НДА я падумаў, што буду больш карысны для Беларусі, чым для Даніі, - кажа Нільсэн. - Чым раздаваць улёткі ў цэнтры Капенгагена, лепш кансультаваць беларускіх актывістаў: гэта дасць больш плён.

Працуючы настаўнікам дацкай, ангельскай і нямецкай моваў, а таксама музыкі і гісторыі ў мястэчку Харлеў за 60 км ад Капенгагена, Нільсэн напісаў і выдаў у электронным фармаце казку пад назвай "Княства пад бел-чырвона-белым сцягам". У кнізе апісваецца гісторыя Беларусі, дзе *"народ крочыць камяністым шляхам да дэмакратыі"*.

- Я напісаў казку, у першую чаргу, каб натхніць мастакоў і творчых людзей з Беларусі на стварэнне мастацтва, якое дапаможа развіццю дэмакратыі.

Жанр казкі Нільсэн абраў дзеля таго, каб чытаць маглі і дарослыя, і дзеці.

- У казцы я магу быць больш паэтычным і вольным - тут не трэба казаць пра пэўныя даты і дэталі гісторыі, якія зрабілі б кнігу больш сумнай і менш натхняльнай.

"Княства пад бел-чырвона-белым сцягам" - першая самастойная публікацыя Нільсэна. Кошт кнігі на сайце - 3 эўра для беларусаў і 6 эўра для жыхароў Заходняй Еўропы (Нільсэн лічыць, што еўрапейцы мусяць плаціць больш дзеля салідарнасці). Заробленыя грошы датчанін хоча патраціць на стварэнне мастацкага прытулку для беларусаў.

- Такія месцы я бачыў у Даніі, - кажа Нільсэн. - Туды прыязджаюць мастакі і пісьменнікі, каб атрымаць натхненне і ў спакойных умовах пісаць свае творы. Яны туды прыязджаюць за вельмі малыя грошы ці зусім задарма.

Падобнае месца Нільсэн хацеў бы стварыць каля мястэчка, дзе ён цяпер працуе.




Капенгагена, дзе працаваў яшчэ сёлета.

- Набываючы кнігу, людзі ўкладаюць у будучае дэмакратычнае мастацтва, - кажа Нільсэн. - А гэта, у сваю чаргу, паўплывае на змены ў беларускім грамадстве.

Нільсэн цяпер цікавіцца грамадска-палітычным жыццём Беларусі больш, чым роднай Даніяй. Але ў масе сваёй датчане ведаюць пра Беларусь не так шмат. Толькі з 2006 года там пачалі ўзгадваць Беларусь у СМІ, бо тады вялікая дэлегацыя назіральнікаў рушыла на прэзідэнцкія выбары.

- Я думаю, што добрая частка насельніцтва Даніі ведае, што Беларусь існуе, што яна кіруецца дыктарам, - кажа Нільсэн. - Таксама датчане думаюць, што беларусы жывуць у такіх самых дрэнных умовах, як і расейцы ці ўкраінцы. Але не больш.

Сам Нільсэн быў у Беларусі толькі аднойчы - увосень 2005 года. Калі ж паспрабаваў прыехаць у Беларусь на наступны год, напярэдадні выбараў, яму адмовілі ва ўездзе.

З таго часу Нільсэн не прыязджаў у Беларусь. Наведаць краіну ён плануе толькі тады, калі тут зменіцца ўлада.

***Радыё Свабода.***



nce upon a time a small Kingdom was born on a flat land of steppes and forests, where a few farmers and huge flocks of storks lived together. Simple people lived there in perfect harmony with nature and could trade their goods in the cities or in the neighboring kingdoms. Farmers vied with each other to produce the finest crops, the biggest cow or the happiest pig. There were many festivals in the Kingdom, but the biggest was, of course, the harvest feast. Here you could see young girls in red and white folk dresses, joyfully laughing to the lads who had brought in huge amounts of crops and hoped to dance polka and drink kvas till dawn would break.

But it was like an evil spell was casted upon the small Kingdom. Neighboring kings got mad at each other, and in almost unending period of time foreign armies rode through the fields and scared up flocks of storks. At the end, a big kingdom grew so large that it truly could call itself an empire, and the power-hungry emperor subjugated the small Kingdom and many others.

The big empire stretched over a big, big continent. It took many a days' travel to go from one end to the other. The emperor ruled from a citadel in a huge metropolis sitting on a mighty throne situated under enormous red banners. From that citadel everything was controlled, from what time the farmers should plant to when it was appropriate to smile. To make everything effective he wrote it down in a plan, that he renewed every fifth year.

In other kingdoms around the big empire, it had grown modern that people could decide a lot of things themselves. In these

8



# Алесь Краўцэвіч у Магілёве

У чацвер 25 кастрычніка магілёўская суполка ТБМ зладзіла сустрэчу з вядомым беларускім гісторыкам Алесем Краўцэвічам. Госць прэзентаваў сваю апошнюю кнігу "Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага 1248-1377", распавёў пра свае апошнія даследаванні як аўтара і пра гэты перыяд, так і шмат чаго іншага з нашай мінуўшчыны. Былі закранутыя пытанні развіцця беларускай гістарыяграфіі не толькі ў пытаннях, датычных непасрэдна нашых земляў і продкаў, але і неабходнасці апісання айчыннымі навукоўцамі і гісторыі суседніх дзяржаваў ды народаў з нашага, нацыянальнага пункту гледжання, бо пакуль што гісторыю суседзяў мы вывучаем праз іхняе ж бачанне, якое не заўсёды спрыяе інтарэсам Беларусі, як незалежнай і суверэннай краіны. А ўжо ў суботу 31 кастрычніка адбылася яшчэ адна сустрэча са спадаром Алесем Краўцэвічам, прысвечаная 500-годдзю Мікалая Радзівіла Чорнага.





***Алесь Сабалеўскі.***





# Беларускі нацыянальны касцюм

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Андарак насілі жанчыны заможных саслоўяў для халоднага перыяду года. У XIX-XX стст. такая спадніца лічылася святочным адзеннем, магла ўваходзіць у склад вясельнага касцюма. У XIX-XX стст. андарак быў распаўсюджанным адзеннем разам з іншымі відамі жаночых спадніц. Андарак шылі ўкругавую з чыставаўнянай ці паўваўнянай тканіны. Са сподняга боку па нізе звычайна падшывалася палоска тканіны шырынёй 10-15 см, дзякуючы чаму, краю надавалася калянасць і захоўвалася звонападобная форма вырабу. Унізе па краі прышывалася спецыяльная стужка - "шчыпок", ці "чыпок", якая не



*Шляхцянка Ганна Ваньковіч (з роду Солтанаў). Мастак Ян Рустэм, каля 1805 г.*



*Княгіня Марыя Феліцыя Друцкая-Любецкая (1833-1897) з роду Шэметаў. Фота каля 1861 г.*





*Заможная гараджанка з Гародні. Фота каля 1901 г.*



*Дзяўчына ў традыцыйным беларускім сялянскім жаночым касцюме. Фота 2007 г.*

толькі ўпрыгожвала, але і засцерагала ніз спадніцы.

Тэрмін "саян" выкарыстоўваюць для абазначэння жаночага адзення, якое ўяўляе сабой спадніцу з прышытым ліфам. Для саяна характэрны крой без рукавоў, падобны на сарафан. Жанчыны насілі таксама неадрэзаную па таліі сукенку без рукавоў. Яе шылі з чорнай, вытканай у дамашніх умовах тканіны, упрыгожвалі галуном і пазументам. Перад закрывалі пярэднікам. Штодзённы касцюм насілі з пярэднікам з белай тканіны. Да святочнага касцюма іх рабілі асабліва прыгожымі - расшывалі швы, баваўнянымі і ваўнянымі ніткамі вышывалі рознакаляровы арнамент. Прымянялі і іншыя прыёмы упрыгожванняў. "Запон" закрываў спадніцу і ліф амаль да самай шыі і падвязваўся не на таліі, а вышэй, пад грудзямі.

У склад поўнага камплекту жаночага адзення ўваходзіў фартух. Яго насілі на Беларусі разам са святочным уборам і з паўсядзённым касцюмам як са спадніцай, так і з адзеннем на ўзор саяна. Фартухі шылі з адбеленай ільняной тканіны за 2-3 ночы. Злучаныя разам простым швом ці дэкаратыўным ажурам, палотнішчы тканіны збіралі ў зборку па адным краі на нешырокі пояс. Завязваўся ён па таліі і прыкрываў адзенне спераду, пакідаючы палоску спадніцы ўнізе. Святочныя фартухі ўпрыгожваліся вельмі багата і з вялікай фантазіяй, а штодзённыя былі больш сціплыя. У канцы XIX ст. іх шылі з набіўных і клетчатых тканін. У XX ст. з'явіліся пярэднікі з каляровай гладкафарбаванай тканіны (чорнай, чырвонай), афармленыя унізе нашыўкамі каляровых стужак. У гэты час вышыўка ці ткацкі арнамент замяняюцца нашыўкамі з каляровых стужак, апліканыямі з каляровых тканін, устаўкамі карунак. Мелі характэрную назву "заказнікі", так як звычайна іх заказвалі майстрыцам.



*Сялянскі фартух лунінецкага строю са свастычным арнаментам, пачатак XX ст. Фота 2012 г.*

Важнай складовай часткай традыцыйнага сялянскага жаночага касцюма быў пояс, на якім таксама маглі падвешваць ключы, невялікія нажы і амулеты. У XX ст. паясы выраблялі са скуры, тканін і нітак. Ткалі і плялі паясы асаблівым спосабам - "на ніту", "на бердачцы". Тканыя паясы былі даволі доўгімі - да 2-2,5 м, заканчваліся "махрамі", "кутасамі". Пояс завязвалі па таліі, часцей у два абхваты, на просты вузел. Канцы пакідалі ў цэнтры ці зняшчалі ў адзін бок. Шырыня пояса вызначалася ў суаднасінах з іншымі часткамі касцюма і хісталася ад вузкіх - "у два-тры пальцы" шырыні - да 25-26 см.

**Верхняе адзенне**

Жаночае верхняе адзенне часцей і багацей, чым мужчынскае, упрыгожвалася вышыўкай і апліканыяй, але па выглядзе і крої не вельмі моцна адрознівалася ад мужчынскага.



*Графіня Ганна Алаіза Хадкевіч (1600-1654) у футры і зімовай шапцы. Партрэт XVII ст.*

*(Працяг у наступным нумары.)*





Анатоль ЖУК

# Случчына, 1920-ты




*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

З-за частых нападаў падраздзяленняў 1-й Слуцкай брыгады на расійскія войскі камандаванне 16-й арміі пасля папярэдне атрыманай згоды польскіх уладаў прыняло рашэнне ачысціць нейтральную зону ад *"антисоветского элемента. Для выполнения этой задачи с утра 4 декабря были введены в нейтральную зону отряды 8 и 17 стрелковых дивизий* (17-я дывізія не прымала непасрэднага ўдзелу ў баях супраць удзельнікаў Слуцкага збройнага чыну, яе падраздзяленні займалі пазіцыі на поўдні на лініі Ленін - Тураў і далей да Петрыкава. - *А.Ж.*). *Трёхдневная операция дала незначительные результаты: всего было задержано около 50 дезертиров, 15 перебежчиков и забрано 2 лёгких орудия, брошенные бандитами у реки Припять в районе дер. Вересница"*. Так сведчыць пра падзеі снежня 1920 года "гісторыка-стратэгічны нарыс" 16-й арміі.

7 снежня чырвонаармейцы разбілі ўдзельнікаў збройнага чыну каля Семежава і занялі мястэчка. Частка падраздзяленняў 1-й Слуцкай брыгады перайшла лінію нейтральнай зоны на польскім баку ад дзяржаўнай граніцы. Палякі раззброілі 30 афіцэраў і 400 салдат брыгады.

Як толькі расійскія войскі выйшлі з нейтральнай зоны, атрады 1-й Слуцкай брыгады ўзнавілі напады на часткі Чырвонай Арміі. Так, уначы з 9 на 10 снежня 1920 года яны зрабілі налёт на вёскі Крывасёлкі і Навасёлкі, дзе захапілі 28 палонных, уначы 12 снежня - на вёску Старынь. Потым былі спробы выбіць чырвонаармейцаў з занятых імі пазіцый. 13 снежня вайскоўцы 1-й Слуцкай брыгады занялі мястэчка Семежава *"пасля крывавага бою"*, у якім *"вораг страціў забітых і раненых 50 чалавек. З нашага боку 3-х раненых"*. Праўда, потым пад націскам чырвонаармейцаў яны былі вымушаны адступіць. Штаб 1-й Слуцкай брыгады, а з ім Беларуская рада Случчыны перамясціліся ў вёску Морач (цяпер у Клецкім раёне).

Вось некаторыя паведамленні штаба 1-й Слуцкай брыгады:

*"З 17 на 18. XII мы занялі м. Пілінавічы, Бучацін, Страхін і м. Семежава. Узята 25 палонных і здабыта 1 кулямёт з набоямі, шмат стрэльбаў, набояў, гранатаў, палёвая кухня, транспарт з коньмі.*

*З 18 на 19. XII мы занялі Вызну. 50 чырвонаармейцаў забіта і шмат ранена, а таксама захоплена значная ваенная здабыча.*

*19. XII а 10-й гадз[іне] раніцы бел[арускія] аддзелы пад націскам ворага адышлі на старыя пазыцыі"*.

Кідаецца ў вочы тое, што ў гэтых паведамленнях не гаворыцца пра страты вайскоўцаў 1-й Слуцкай брыгады ў баях супраць чырвонаармейцаў. А яны ж не маглі не быць з улікам колькаснага складу і ўзбраення абодвух бакоў (не на карысць удзельнікаў збройнага чыну).

Штаб 16-й арміі ў 22 гадзіны 19 снежня 1920 года атрымаў тэлеграму, дзе гаварылася пра вышэйзгаданыя падзеі: *"8-я дивизия, 22 бригада, отряд 65 полка силою 66 штыков выступил в 9 час. 19/12 из м. Романово в м. Тимковичи для усиления 66 полка. В остальном бригады без перемен. 23 бригада. В 7 час. 19/12 банда белорусов силою 100 штыков напала на м. Вызна и заняла его. Рота 69 полка выбила в 10 час. противника из местечка, но с контрнаступлением его наши части вынуждены были отойти. В 12 час. с помощью двинутых резервов 69 полка наши части выбили противника и снова заняли м. Вызна, захватив в плен 12 солдат 9 роты Белорусского полка. Главные силы противника отступили в м. Семежево. В 5 час. 19/12 в направлении д. Гулевичи (6 вёрст северо-восточнее м. Семежево) из г. Слуцк двинуты 2 бронемашины бронеотряда №1. В исполнение директивы Командарм для очистки нейтральной зоны двинут в 4 час. 19/12 в м. Вызна 68 полк..."*.

17 снежня 1920 года Найвышэйшая рада БНР прызначыла маёра Андрэя Якубецкага (ураджэнец вёскі Сухмяні Гарадзенскага павета, цяпер у Гарадзенскім раёне) галоўнакамандуючым войскамі Беларускай Народнай Рэспублікі. 19 снежня ў вёсцы Морач ён выдаў загад № 1, у якім гаварылася, што *"мы не пакінем змагацца, пакуль жыхар Беларусі не зробіцца праўдзівым гаспадаром сваёй зямлі. Афіцэры і жаўнеры! Наш шлях па вызваленьню Бацькаўшчыны мусіць быць шляхам вялікае пашаны да жыцьця, дабрабыту і ідэёвых пераканаьняў усяго нашага жыхарства. Я заклікаю Вас трымацца строгае дысцыпліны, бо толькі яна зробіць моцную армію, якая здолее споўніць акрэсленае заданьне. Воля нашае Бацькаўшчыны ў нашых руках. Ведайце, што толькі ў Незалежнай і Непадзельнай Беларусі народы знойдуць здаваленьне сваіх патрэбаў"*.

Ураджэнец вёскі Сухаўшчына Быстрыцкай воласці Слуцкага павета (цяпер у Капыльскім раёне) Сяргей Бусел успамінаў, што *"кожын дзень паўстанцы рабілі налёты на бальшавіцкія аддзелы, захоплівалі палонных і ваеннае дабро. Часта афіцэры палонных палітрукоў не адсылалі ў штаб, а расстрэлівалі на месцы. Бальшавікі не маглі захапіць жывым ніводнага паўстанца і за гэта вымяшчалі на сялянах... Адзін раз разьведка паўстанцаў захапіла ў вёсцы Кажушкі роту чырвонаармейцаў, забіла палітрука і вышла зь вёскі. Назаўтра, даведаўшыся аб гэтым, бальшавікі зь вялікім атрадам акружылі вёску Кажушкі, выгналі ўсіх людзей на поле, паставілі процiў іх кулямёты і патрабавалі выдаць маючых зносіны зь беларускімі паўстанцамі. Сяляне маўчалі. Тады бальшавікі пачалі выбіраць з грамады па твары падазроных і адводзілі ўбок. Калі патрэбны лік людзей быў адабраны, то сталі адганяць грамаду ад абрачоных на смерць, але грамада не адступалася, падняўся страшэнны крык і плач дзяцей. Старыя прасілі паставіць іх пад кулі замест сыноў і ўнукаў, кабеты - замест мужыкоў, дзеці не адходзілі ад сваіх бацькоў і моцна плакалі. У канцы бальшавікам, мусіць, надаела слухаць гэты раздзіраючы душу канцэрт, яны схапілі першых папаўшыхся ў рукі 2-х чалавек, расстралялі іх і спакойна пакінулі вёску, задаволіўшы свае краважадныя інстынкты"*. Гэтыя і некаторыя іншыя прыклады сведчаць аб тым, што не вельмі "цырымоніліся" ў пэўных сітуацыях і байцы Чырвонай Арміі, і ўдзельнікі Слуцкага збройнага чыну.

Пасля заняцця чырвонаармейцамі Вызны ў вайскоўцаў 1-й Слуцкай брыгады не было іншага выйсця акрамя як адысці ў заходнім кірунку да вёскі Смалічы. 20 снежня яны адступілі на пазіцыі паміж населенымі пунктамі Колкі, Морач, Узнога, у той жа дзень чырвонаармейцы выбілі іх з Семежава. Штаб 1-й Слуцкай брыгады перабраўся ў сяло Заастравечча, непадалёку ад ракі Лань, за якой стаялі польскія войскі. У Заастравеччы яшчэ больш абвастрыліся адносіны паміж Беларускай радай Случчыны і камандаваннем 1-й Слуцкай брыгады стральцоў войскаў БНР. На адным са сваіх сходаў афіцэры брыгады выказалі недавер Беларускай радзе Случчыны, яе абвінавацілі ў здрадзе, адсутнасці дапамогі ад ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, невыкананні сваіх абяцанняў - забяспечыць брыгаду ў неабходнай колькасці зброяй і харчаваннем.

Тым часам у Заастравеччы збіраліся вайскоўцы з разбітых чырвонаармейцамі падраздзяленняў 1-й Слуцкай брыгады. А польская дэлегацыя на чале з Янам Домбскім на мірных перагаворах у Рызе дала згоду на ўвядзенне на 77 гадзін расійскіх войскаў у нейтральную зону, у тым ліку і на польскую тэрыторыю. Як успаміналі відавочцы, у апошнія дні снежня 1920 года часткі Чырвонай Арміі ў нейтральнай зоне амаль штодзённа праводзілі рэйды па выяўленні тых, хто выступаў супраць савецкай улады. А ўдзельнікам Слуцкага збройнага чыну ўжо не хапала ні боепрыпасаў, ні харчавання для таго, каб арганізаваць паўнавартаснае процідзеянне чырвонаармейцам.

У такіх умовах Беларуская рада Случчыны прыняла рашэнне аб пераходзе цераз раку Лань на польскую тэрыторыю, і 28 снежня 1920 года 1-я Слуцкая брыгада стральцоў войскаў Беларускай Народнай Рэспублікі перайшла раку. Гэты дзень лічыцца днём заканчэння Слуцкага збройнага чыну, хоць апошнія групы яго ўдзельнікаў перабраліся на польскую тэрыторыю 31 снежня 1920 года. Адзін батальён 1-й Слуцкай брыгады (прыкладна 400 чалавек) не выканаў рашэнне Беларускай рады Случчыны і застаўся ў нейтральнай зоне, каб працягваць партызанскую барацьбу супраць Чырвонай Арміі. Асноўную частку батальёна складалі прыхільнікі генерала С. Булак-Балаховіча, яны падзяліліся на групы і партызанілі некалькі гадоў.

Як толькі ўдзельнікі збройнага чыну перайшлі цераз раку Лань, афіцэры і салдаты 1-й Слуцкай брыгады стральцоў войскаў БНР былі раззброены і часова (да афіцыйнага заканчэння савецка-польскай вайны і падпісання мірнага дагавора) ізаляваны спачатку ў лагеры ў мястэчку Сіняўка, затым - у лагеры ў Беластоку. У пачатку 1921 года іх перавялі ў лагер у Дарагуску (на рацэ Заходні Буг).

Інтэрнаваныя ўдзельнікі Слуцкага збройнага чыну былі вызвалены з лагера ў траўні 1921 года пасля ратыфікацыі ўладамі Расіі, Украіны і Польшчы падпісанага 18 сакавіка 1921 года ў Рызе мірнага дагавора. Вызваленыя салдаты і афіцэры 1-й Слуцкай брыгады раз'ехаліся ў розныя населеныя пункты Заходняй Беларусі. Некаторыя з іх вярнуліся ў Савецкую Беларусь пасля таго як савецкая ўлада аб'явіла амністыю ў сувязі з заканчэннем грамадзянскай вайны. Аднак потым многія з іх былі рэпрэсаваны савецкімі карнымі органамі.

Слуцкі збройны чын 1920 года - адметная падзея ў гісторыі нашага краю, якая арганічна ўпісваецца ў працэс фармавання нацыянальнай свядомасці беларускага народа, сведчыць аб яго імкненні да незалежнасці і суверэнітэту. У той жа час пра гэтую падзею амаль не ўпаміналі ў сваіх працах савецкія гісторыкі. Прычына гэтага адна: Слуцкі збройны чын (як і некаторыя іншыя падзеі) не ўпісваўся ў схему, быццам працоўны люд пасля 1917 года аднагалосна прыняў савецкую ўладу і змагаўся за яе. Гэта была няпраўда.

Да падзей, звязаных са Слуцкім збройным чынам, звярталіся ў сваёй творчасці народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, а таксама Наталля Арсеннева, Янка Золак, Міхась Кавыль, Алесь Змагар, Макар Краўцоў, Андрэй Федарэнка, Алесь Пашкевіч і іншыя беларускія літаратары.

Ацэнка Слуцкага збройнага чыну была дадзена на Першай Усебеларускай нацыянальна-палітычнай канферэнцыі, якая адбылася 25-28 верасня 1921 года ў горадзе Прага (Чэхаславакія, цяпер сталіца Чэшскай Рэспублікі). У прынятай канферэнцыяй рэзалюцыі "Аб Слуцкім паўстанні" гаварылася: *"Чацьвёрты ўжо год змагаецца Беларусь з насільствам рожных акупантаў... Найяскраўшым момантам у гэтым гераічным змаганьні, апрача паўстаньняў у Віленшчыне, Вітэбшчыне, Ашмяншчыне і г. д., зьяўляецца паўстаньне ў Случчыне, калі сам сярмяжны народ, стыхійна паўстаўшы з аружжам у руках за незалежнасьць і непадзельнасьць сваёй бацькаўшчыны, напісаў на сваім штандары: ні польскіх паноў, ні маскоўскіх камуністаў. Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада канстатуе, што гэтае паўстаньне было задушана пераважаючымі сіламі абодвых бакоў. Слава паўшым змаганьнікам!"*.

Па словах даследчыка слуцкай гісторыі прафесара Анатоля Пятровіча Грыцкевіча, *"Слуцкае ўзброенае выступленне ўвайшло ў гісторыю як адна з гераічных старонак беларускага нацыянальна-вызваленчага руху XX стагоддзя. Штогод беларускія нацыянальныя арганізацыі ў розных краінах свету адзначаюць 27 лістапада як Дзень Герояў. З 1992 года гэты дзень святкуюць і нацыянальна свядомыя беларусы ў сваёй Айчыне"*.

**Аднаўленне савецкай улады**

Пасля таго як 29 лістапада 1920 года Слуцк занялі чырвонаармейскія падраздзяленні, у горадзе аднавіў дзейнасць Слуцкі павятовы ваенна-рэвалюцыйны камітэт, які вярнуўся са Старых Дарог. У яго справаздачы аб праведзенай рабоце за перыяд з 1 па 15 снежня 1920 года адзначалася: *"Отношение населения к Советской власти неудовлетворительное по следующим причинам: большая государственная развёрстка и реквизиция опродкомбригом годовая, хаотичная повинность, сильно развитое национальное брожение, распространённая антибольшевицкая пропаганда агентами Балаховича и Белорусской Рады во время польской оккупации о беспощадных расправах советской власти с дезертирами и проч."*.

Ва ўсіх валасцях павета былі створаны рэвалюцыйныя камітэты, у тым ліку тры - у нейтральнай зоне (у мястэчку Семежава, сёлах Пясочнае і Хараства; пры рэўкамах у Семежаве, Пясочным і Хараставе сфарміравалі атрады міліцыі з пешых і конных міліцыянераў агульнай колькасцю 90, 170 і 135 чалавек адпаведна). Пачалі дзейнічаць сельскія Саветы ў сельскіх населеных пунктах.

Па тэрыторыі павета пракацілася хваля арыштаў жыхароў горада і сельскіх населеных пунктаў, якая не спынілася і ў 1921 годзе. Асноўныя абвінавачанні арыштаваным прад'яўляліся ў шпіянажы на карысць Польшчы і ў здрадзе савецкай уладзе. Да вышэйшай меры пакарання былі прыгавораны жыхары Слуцка Міхаіл Сямёнавіч Дубоўскі (арыштаваны 4 снежня 1920 года), Ганна Мечыславаўна Язерская (арыштавана 27 снежня 1920 года), Іван Васільевіч Асіповіч (арыштаваны 18 траўня 1921 года), Міхаіл Піліпавіч Дрозд (арыштаваны 11 студзеня 1921 года), да трох гадоў папраўча-працоўных лагераў - сялянка-аднаасобніца з хутара Забалацце Яўгенія Францаўна Пузіноўская (арыштавана 12 студзеня 1921 года)... Названыя жыхары Случчыны рэабілітаваны ў 1992 годзе.

1 снежня 1920 года пачаў дзейнічаць Слуцкі павятовы ваенны камісарыят, пры якім быў сфарміраваны атрад з 65 чалавек па барацьбе з дэзерцірствам. Пры ваенным камісарыяце быў арганізаваны перасыльны пункт, а таксама пачалі працаваць аддзел забеспячэння і мабілізацыйны аддзел ваенкамата. *"Производился приём и отправка добровольно явившихся дезертиров, коих явилось 42 человека, принято отпускных по болезни 24 человека. Отправлено в части войск 21 человек..."* - адзначаў у справаздачы аб сваёй рабоце Слуцкі павятовы ваенна-рэвалюцыйны камітэт.

Случчына ўключалася ў савецкую рэальнасць...

# ПАЛАНЕЗ НАДЗЕІ

*...Краю мой, Ты палёг у сэрцы зямлі,*
*Еўропаю названай...*
*пакрыты Плашчаніцаю - Хрыстом...*
*паклікяны - Апосталам...*
*хрышчоны - Роўнаапостальным*
*у веры Праваслаўнай...*
*ратуешся - малітвай і постом...*
*- Жыве Беларусь!.. - Жыве! -*
*і ў Польшчы... і ў Нямеччыне... - .*
*паўсюдна, дзе дух чалавечы*
*ратуецца ў Царкве...*
*- Жыве Беларусь!.. - Жыве! -*
*- Жыве Беларусь!.. - Жыве! -*
*ў Нарвегіі... і ў Ангельшчыне...*
*паўсюдна, дзе памяць вечная*
*схіляецца ў журбе...*
*- Жыве Беларусь!.. - Жыве! -*
*- Жыве Беларусь!.. - Жыве! -*
*ў Амерыцы... і ў Аўстраліі...*
*паўсюдна, дзе з смерці паўсталі, -*
*хто не забыў сябе...*
*- Жыве Беларусь!.. - Жыве! -*
*...у Піцеры... і ў Маскве...*
*ў Сібіры... і ў Кітаі...*
*з нябыту Яна ўваскрасае...*
*- Жыве Беларусь!.. - Жыве! -*
*...ля сэрцаў, сляпых і глухіх, -*
*крывавячы губы і скроні, -*
*лятуць і лятуць тыя коні... -*
*па гонях сваіх і чужых...*
*...лунаюць бель-чырвань-і бель*
*у золаце і блакіце...*
*то - нібыта золак у жыце*
*ўзыходзіць Царквы карабель...*
*...у сэрцы і ў галаве -*
*дзе цені шаленства і горасць*
*- Жыве Падабенства і Вобраз!..*
*- Жыве Беларусь!.. - Жыве! -*
*...Краю мой.*
*Ты палёг у сэрцы зямлі,*
*Еўропаю названай...*
*пакрыты Плашчаніцаю - Хрыстом...*
*паклікяны - Апосталам...*
*хрышчоны - Роўнаапостальным*
*у веры Праваслаўнай...*
*ратуешся - малітвай і постом...*



Гэты тэкст айца Іаана з Жыровічаў на музыку паланеза М. К. Агінскага "Развітанне з Радзімай" павінен быў прагучаць на "Лідскіх зазімках", якія былі прысвечаны 250-м угодкам з дня нараджэння вялікага беларуса і якія прайшлі 18 лістапада. Аднак не прагучаў, не знайшлі, каму выканаць.

Сам жа паланез гучаў і ўжывую (выканала Наталля Федаровіч з музкаледжа) і ў запісе падчас усёй імпрэзы, падрыхтаванай супрацоўнікамі Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы.



Імпрэза ўключала акрамя іншага відэапрэзэнтацыю "Агінскія"; кніжную выставу "Шлях да "Паўночных Афін"; агляд "Абраннік вечнасці" з прэзентацыяй дзвюх новых кніг праправпраўнукаў Агінскага - Андрэя і Іва Залускіх "Ген Огинского" і "Время и музыка Михаила Клеофаса Огинского", выдадзеных да 250-годдзя выдатнага беларускага кампазітара ў перакладзе з ангельскай мовы на расейскую.

Быў М. К. Агінскі багаты і знакаміты. Ваяваў і быў дыпламатам, палітыкам, прадоўжыў свой род. Але нічога гэтага амаль не засталося б у памяці людзей, каб не музыка, якую ён стварыў. Яна дала яму бессмяроцце на стагоддзі, любым зрабіла яго імя, і наша шанаванне яму на векі вякоў!

А што тычыцца верша айца Іаана (у паэтычным свеце Зьніч), то не ўдалося сёлета - прагучыць ён пад музыку паланеза праз год ці два, бо Беларусь жыве, а ў Беларусі жыве памяць пра сваіх годных, слаўных і знакамітых сыноў. І можа стацца, што забудуць некалі Зьніча, але не забудуць яго вершы, як не забываюць музыку М.К. Агінскага.

*Яраслаў Грынкевіч.*

# Танцуем па-даўнейшаму

Папярэдні конкурс, які прайшоў два гады таму паказаў, што не прападае цікавасць да пабытавых танцаў на Лідчыне. Таму ў суботу 21 лістапада ў аграгарадку "Тарнова" адбыўся II раённы конкурс пабытавых танцаў "Танцуем па-даўнейшаму". Ужо ўсталявалася свая сістэма правядзення гэтага мерапрыемства. У красавіку праводзіцца семінар, дзе развучваем танцы, якія будзем прэзентаваць на конкурсе, а ў лістападзе праводзіцца сам конкурс. У гэты раз танчылі "Польку", "Аляксандру", "Каханачку". Танцавалі , як кажуць, усе: ад малога да старога. У трох узроставых катэгорыях (дзіцячай, моладзевай, дарослай) удзельнічалі прадстаўнікі 16 клубных устаноў культуры раёна (усіх 17) і клуб "Актыўнае даўгалецце" сацыяльнага цэнтра абслугоўвання насельніцтва горада Ліды. Самы малодшы (10 год) быў Ілля Малец з філіяла "Гудскі цэнтр творчасці і вольнага часу" ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці", а самаму старэйшаму Эдаку Якубашку з клуба "Актыўнае даўгалецце" споўнілася 84 гады. Трэба сказаць, што розніцы ва ўзросце амаль не адчувалася, таму што ўсе пары танчылі пачуццёва і без усякага прымусу выйшлі на сцэну. У другі раз атрымалася сапраўднае свята пабытавых танцаў, дзе гучала жывая музыка (баян, гармонік і барабан), панавалі сардэчнасць, шчырасць і радасць, радасць ад таго, што мы ізноў мелі магчымасць аддаць даніну павагі нашым продкам, стваральнікам гэтых танцаў.







***Ганна Некраш,***
*вядучы метадыст ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці".*

***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by



**http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/**
**http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**
**http://nashaslova.mns.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 30.11.2015 г. у 17.00. Замова № 3785.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 8750 руб., 3 мес.- 26250 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.